*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◆ № 6 (62) ◆ 12 лютага 1992 г. ◆ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

*«Клопат аб беларусізацыі не стаў прадметам увагі з боку камандавання Беларускай ваеннай акругі».*

*Стар. 2*

*ЯКІМ БЫЦЬ ПРАВАПІСУ?*

*Стар. 5*

*Нашы інтэрв'ю*

## ПЁТР КРАЎЧАНКА: нацыянальнае разуменне прыйдзе праз абуджэнне нацыянальнай інтуіцыі

***(Гутарка з міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. К. Краўчанкам).***

— Адно, на жаль, з нешматлікіх міністэрстваў, дзе міністр гаворыць па-беларуску — Ваша. А ці бяруць прыклад з міністра іншыя супрацоўнікі міністэрства?

— Калі я прыйшоў у гэтае міністэрства, з супрацоўнікаў толькі двое размаўлялі па-беларуску. Сёння ўжо, мяркую, такіх супрацоўнікаў працэнтаў 40—50. Я лічу, што перад тым, як патрабаваць, трэба стварыць людзям умовы. У нашым міністэрстве, пачынаючы з верасня, працуюць курсы па вывучэнні

*(Працяг на с. 3).*

## Створана Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій

Два дні ў Менску праходзіў Устаноўчы з'езд ахвяр палітычных рэпрэсій, які ўтварыў Беларускую асацыяцыю ахвяр палітычных рэпрэсій. Заснавальнікамі яе з'явіліся Галоўнае архіўнае ўпраўленне пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, Акадэмія навук Рэспублікі Беларусь, Камітэт маладзёжных арганізацый Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзіцячы фонд, Беларускі фонд культуры, Бабруйская, Брэсцкая, Гомельская, Гродзенская асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій.

З'езд прыняў Статут, выбраў кіруючыя органы асацыяцыі. Яе прэзідэнтам стаў вядомы беларускі вучоны, доктар гістарычных навук, прафесар Г. В. Штыхаў.

Палітычнай і ідэйнай платформай Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій з'яўляюцца развіццё дэмакратыі і зжыванне вынікаў таталітарызму, парушэнняў законнасці, недапушчэнне нацыянальнай і рэлігійнай нецярпімасці ва ўсіх сферах грамадска-палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і духоўнага жыцця Рэспублікі Беларусь, садзейнічанне прававому выхаванню грамадзян і стварэнню прававой дзяржавы. Яе дзейнасць ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, дзейсным рэспубліканскім заканадаўствам і Статутам асацыяцыі.

З'езд унёс прапанову ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь заканадаўча прызнаць масавыя палітычныя рэпрэсіі 1917 — пачатку 80-х гадоў злачыннымі дзеяннямі і кваліфікаваць іх як генацыд супраць народа Беларусі.

З'езд лічыць неабходным поўнае і публічнае адкрыццё для даследчыкаў архіваў КДБ і МУС (НК-УНК-АДПУ-НКУС), у якіх захоўваюцца дакументы і матэрыялы аб палітычных рэпрэсіях у Беларусі.

З'езд звярнуўся з заклікам да працоўных калектываў і кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў, кааператываў, акцыянерных аб'яднанняў, сумесных прадпрыемстваў стаць спонсарамі Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій і яе мясцовых аб'яднанняў, аказваць фінансавую дапамогу ахвярам рэпрэсій, на справе праяўляць да іх дабрачыннасць і клопаты.

З'езд таксама даручае прэзідыуму асацыяцыі ўстанавіць сувязі з ахвярамі палітычных рэпрэсій за мяжой, а таксама з роднаснымі і дабрачыннымі міжнароднымі арганізацыямі і наладзіць з імі ўзаемадзеянне і супрацоўніцтва.

## Поступ тыдня

АДЗІН ЗА ДРУГІМ СПЫНЯЮЦЦА БЕЛАРУСКІЯ ПРАМЫСЛОВЫЯ ГІГАНТЫ — «БелАЗ», «МАЗ», «ГОМСЕЛЬМАШ», «МАНАЛІТ», ШМАТТЫСЯЧНЫЯ КАЛЕКТЫВЫ ІДУЦЬ У ВЫМУШАНЫ АДПАЧЫНАК. Прычына — адсутнасць сыравіны, камплектуючых, зьмяншэнне попыту на прадукцыю. На жаль, ніхто не можа сказаць, што чакае прамысловасць і ў бліжэйшы час.

*СФАРМІРАВАНА КААРДЫНАЦЫЙНАЯ РАДА БЛОКА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛ «НОВАЯ БЕЛАРУСЬ». Мяркуецца, што гэта будзе апазіцыя для сучаснага кіраўніцтва рэспублікі.*

ІДЗЕ ВЯСНА, А КІРАЎНІКІ ВЯСКОВЫХ ГАСПАДАРАК У ПОЎНАЙ РАЗГУБЛЕНАСЦІ: ЦАНА КАМБАЙНА ВЫРАСЛА ДА 2 МІЛЬЕНАЎ РУБЛЁЎ, ТРАКТАРНАЙ ГУСЕНІЦЫ — ДА 50 ТЫСЯЧ, ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ У 15—19 РАЗОЎ. ВЯЛІКУЮ ДОЛЮ АД ПРЫБЫТКУ ЗАБІРАЮЦЬ ПАДАТКІ. Дзе ж выйсце, як пазбегнуць банкруцтва? Пытанне пакуль застаецца без адказу.

*ЗАРАБОТНАЯ ПЛАТА У НАРОДНАЙ ГАСПАДАРЦЫ РЭСПУБЛІКІ У СЯРЭДНІМ СКЛАДАЕ ЦЯПЕР 1908 РУБЛЁЎ. ГЭТА У 2—2,5 РАЗЫ БОЛЕЙ, ЧЫМ ЛЕТАСЬ. А У КОЛЬКІ РАЗОУ ВЫРАСЛА І ЯШЧЭ ВЫРАСЦЕ «СЯРЭДНЯЯ» ЦАНА?..*

АДНАЎЛЯЮЦЬ забастоўку шахцёры Салігорска. Яны не могуць дамовіцца з урадам аб тарыфным пагадненні на сёлетні год.

БЛОК ВАЕННЫХ праблем збіраюцца абмеркаваць кіраўнікі дзяржаў — удзельніц Садружнасці на сумесным пасяджэнні, якое адбудзецца 14 лютага ў Менску.

*САВЕТ ФЕДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ ПРАФСАЮЗАЎ НАКІРАВАЎ В. Ф. КЕБІЧУ ПІСЬМО, У ЯКІМ ПРАПАНУЕ ПРЫНЯЦЬ ДАДАТКОВЫЯ МЕРЫ ПА САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЕ НАСЕЛЬНІЦТВА У СУВЯЗІ З ЛІБЕРАЛІЗАЦЫЯЙ ЦЭН. Згодна з гэтым пісьмом, мінімальная зарплата ў лютым павінна скласці 700 рублёў, прапануецца таксама павялічыць частковую кампенсацыю дадатковых выдаткаў з-за павелічэння цэн на мяса і масла. Прафсаюзы лічаць, што і ўклады насельніцтва ў ашчадных банках трэба абараніць такім жа чынам, як і пасля красавіцкага павышэння цэн у мінулым годзе.*

## Што з намі адбываецца, альбо Чаму «Наша слова» не даходзіць да чытача?

***Нават у застойныя часы ў рэдакцыі рэспубліканскіх газет іншы раз прыходзілі пісьмы з скаргамі на ЦК, вярхоўныя органы ўлады, ад якіх газеты поўнасцю залежалі. Такое ўяўленне людзей аб ролі прэсы складалася даўно. І, калі ўдумацца, яно мае пад сабой рэальную аснову:***

няма такой праблемы, у вырашэнні якой не маглі б дапамагчы органы друку. Сёння пры іх удзеле сапраўды расчышчаюцца завалы, накопленыя ў мінулым, уключаючы і недахопы ў дзейнасці вярхоўнай улады. Усе, акрамя адной,— поўнай залежнасці ад паліграфічнай базы.

Гэта ў наш час нарадзіўся выраз — «паліграфічная ўдаўка на органы друку». Такой «удаўкі» не пазбегла і газета «Наша слова». Па тэхнічных прычынах мы не можам друкаваць у газеце аператыўную інфармацыю. Адну інфармацыйную калонку «Поступ тыдня», якая набіраецца ў дзень падпісання нумара да друку, нам дазваляецца даваць як выключэнне. Усе астатнія матэрыялы мы павінны здаваць у набор за некалькі дзён наперад.

Але падпісаўшы газету ў друк, мы яшчэ не можам гарантаваць, што яна своечасова дойдзе да чытача.

*(Працяг на с. 2).*

## «ВІС»: дзе і што?

25 снежня Беларуска-эстонскае зямляцтва ў Кохтла-Ярве наладзіла святкаванне Каляд. У традыцыйны характар іх правядзення ўвайшлі і новыя рысы: былі наладжаны віктарына, прысвечаная Максіму Багдановічу, і беларускі варыянт тэлепраграмы «Поле цудаў».

* * *

18 студзеня ў Сланцавым музеі Кохтла-Ярве аб'яднанне мастакоў-беларусаў Балтыі «Гонар маю» адкрыла сваю чарговую выставу, у якой бяруць удзел мастакі з Вільні, Рыгі, Санкт-Пецярбургу, Кохтла-Ярве.

* * *

У Санкт-Пецярбургу адкрылася першая персанальная выстава беларускага мастака Івана Чарнякевіча. Сам ён — спецыяліст па габелене, але апошнім часам займаецца жывапісам.

* * *

**Другі год існуе пакуль адзіны ў рэспубліцы Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр, а пры ім — гуманітарны ліцэй. У мінулым навучальным годзе, калі дзеці прыходзілі на вучобу толькі раз на тыдзень, у нядзелю, свае аўдыторыі давала адна з менскіх сярэдніх школ. Але ўжо з 1 кастрычніка, як вучоба стала штодня, узнікла пільная патрэба ва ўласным будынку.**

**Дырэктар названага цэнтра Уладзімір Колас звяртаўся ў розныя інстанцыі — безвынікова. І толькі зусім нядаўна, калі вырашаўся лёс партыйнай маёмасці КПСС—КПБ, у Савеце Міністраў Беларусі паабяцалі аддаць будынак філіяла былой ВПШ За гэта падпісваліся і гарсавет, і гарвыканкам, і розныя камісіі — гарадскія і Вярхоўнага Савета, і нават сам спадар Кебіч. Ды толькі правай рукой даючы згоду, Вячаслаў Францавіч тут жа левай рукой падпісвае пастанову, у якой уся партыйная маёмасць (і гэты будынак, зразумела) аддаецца ў распараджэнне Галоўнага гарадскога ўпраўлення Савета Міністраў Беларусі, якое вырашыла будынак пакінуць... ранейшым гаспадарам (арандатарам) — курсам савецкіх работнікаў. Загадчык арганізацыйнага аддзела ўпраўлення спадар Шчарбакоў нават заявіў, што хутчэй развітаецца з працай, чым саступіць дом ліцэю.**

**А позна ўвечары дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія адначасова з'яўляюцца выкладчыкамі гэтага ліцэя, сустракаліся з Вячаславам Кебічам. Як паведаміў спадар Лявон Баршчэўскі, народны дэпутат, літаратар, выкладчык гісторыі сусветнай літаратуры ў ліцэі,— наш прэм'ер у прысутнасці сведкаў пабяцаў на працягу тыдня падпісаць рашэнне пра перадачу будынка Беларускаму гуманітарнаму адукацыйна-культурнаму цэнтру.**

**Назаўтра з'явілася і адпаведнае пісьмовае распараджэнне. Цяпер наперадзе ў ліцэя нялёгкае змаганне за тое, каб выселіць з будынка розныя камсамольскія і кааператыўныя ўстановы, што атабарыліся там з лёгкай рукі кіраўніцтва былой ВПШ.**

# *Уласнае — значыць беларускае*

***Нядаўна, на чарговым пасяджэнні Беларускага згуртавання вайскоўцаў ішла гаворка пра тое, ці будзе сапраўды беларускім войска Рэспублікі Беларусь.***

Кіраўніцтва БЗВ з першага дня свайго існавання адназначна выказалася за вяртанне вайсковых беларускіх традыцый. Гэтаму паслужаць многія гістарычныя дакументы, а таксама артыкулы, манаграфічныя працы Міхася Ткачова, Сяргея Тарасава, Генадзя Сагановіча, Алеся Краўцэвіча і іншых. З-за вялікадзяржаўнай, інакш кажучы, прарасійскай палітыкі Цэнтра, што пазбаўляла войска якіх бы там ні было нацыянальных рыс, беларуская вайсковая гісторыя ў Беларускай ваеннай акрузе застаецца невядомай.

Няма ніякіх зрухаў у справе беларусізацыі выхаваўчай працы ў войску і цяпер, калі замест старых форм работы ўтвараўся своеасаблівы вакуум. На змену колішняй марксісцка-ленінскай падрыхтоўцы прыйшла гуманітарная. Аднак у час, адведзены на гуманітарную падрыхтоўку, кожны з кіраўнікоў заняткаў запаўняе той вакуум чым захоча. У прыватнасці, вывучаецца расійская вайсковая гісторыя.

У сувязі з гэтым Беларускае згуртаванне вайскоўцаў прыняло рашэнне падрыхтаваць і правесці ў школах і прафесійна-тэхнічных вучылішчах Беларусі ўрок патрыятызму. Распрацоўкай лекцыйна-метадычнага матэрыялу да ўрока заняліся два вядомыя гісторыкі — А. Грыцкевіч і Г. Сагановіч. Але як адгукнуцца на задуму БЗВ у саміх школах? І хто будзе праводзіць гэты ўрок-акцыю — выкладчыкі гісторыі ці пачатковай ваеннай падрыхтоўкі? І добра, што на пасяджэнні прысутнічалі афіцэры запасу — выкладчыкі пачатковай ваеннай падрыхтоўкі. Яны з цікавасцю ўспрынялі прапанову БЗВ.

І калі практычныя захады да пошуку форм беларусізацыі ў выхаванні дапрызыўнікаў зроблены — мяркуецца, што такія ўрокі стануць у школах і вучылішчах сістэмай, — то шмат складаней з патрыятычным выхаваннем непасрэдна ў войску. І, відаць, рашучы крок для гэтага пакуль што не зроблены. Прычына найперш у тым, што клопат аб беларусізацыі не стаў прадметам увагі з боку камандавання Беларускай ваеннай акругі. Будзем спадзявацца, што ў Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь беларусізацыя, пытанні патрыятычнага выхавання вайскоўцаў зоймуць належнае месца. У інтэрв'ю газеце «Звязда» генерал-палкоўнік (а тады яшчэ генерал-лейтэнант) Пётр Чавус зазначыў: «Гады праз два будзем мець уласнае войска». Аднак перамены ў нашым жыцці адбываюцца так хутка, што сваё войска мы можам мець хутчэй, чым вызначыў генерал. Значыць, трэба сёння падумаць пра складанне падручніка патрыятычнага выхавання для беларускага войска. Наспела і пара для поўнай беларусізацыі вайсковага друку.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# Што з намі адбываецца, альбо Чаму «Наша слова» не даходзіць да чытача?

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).*

З вялікім спазненнем прыйшлі на пошту і ў кіёскі «Саюздруку» 46-ы мінулагодні нумар і № 1 за сёлетні год. А № 2 наогул прыйшоў адначасова з № 3, спазніўшыся нават болей чым на тыдзень. У чым прычына?

Каб было больш зразумела, перададзім хроніку выхаду гэтага нумара.

14.01. Аўторак. Падпісана газета ў друк, запоўнена тэхналагічная картка на тое, каб зрабілі ўкладку (або падборку) газеты. Гэта значыць, што газета з новага года пачала друкавацца двума часткамі па чатыры палосы, кожная з якіх друкуецца асобна. Пасля гэтыя часткі трэба скласці разам.

15.01. Серада, дзень выхаду газеты. Даведваемся ў друкарні, што ўкладка не робіцца, машына, прызначаная для гэтага, занятая падборкай купонаў!?

16.01. Чацвер. Адказ у друкарні такі ж, як і ўчора. Але дадаецца: той пункт у дагаворы рэдакцыі з друкарняй, дзе прадугледжана ўкладка, будзе наогул скасаваны.

У рэдакцыю зайшоў С. Б. Нехамец, менчук з вуліцы Камуністычнай, скардзіцца, што не атрымаў ніводнага нумара нашай газеты ў гэтым годзе.

Наогул нам пастаянна звоняць з розных месц з адным і тым жа пытаннем: чаму няма «Нашага слова»?

17.01. Пятніца. Ідзём у новае Міністэрства інфармацыі. Вядуцца перагаворы з кіраўніцтвам фабрыкі «Чырвоная Зорка», дзе друкуецца «Наша слова», на вышэйшым узроўні. Адказ друкароў той самы: тэхніка занятая, знайсці людзей для ручной укладкі немагчыма. Ды яшчэ робіцца ўдакладненне: рэдакцыя сама (!) упісала ў дагавор пункт аб укладцы газеты.

Праўда, пры такім удакладненні незразумела, як магла ўпісаць рэдакцыя гэты пункт у той экземпляр, які захоўваецца ў кіраўніцтва фабрыкі? Ды і тэхналагічную картку, што ўжо ўпаміналася, не сама рэдакцыя прыдумала. Але гэта проста да слова. Бо такіх незразумеласцей у адносінах з савецкімі «дзелавымі» людзьмі заўсёды ўзнікае вельмі многа.

20.01. Панядзелак. Паведамляецца, што ўкладка зроблена. Ура! Праўда, не хапае некалькі сот паасобнікаў. Тэлефануем у экспедыцыю. Абяцаюць вечарам газету забраць. Звяртаемся на «Мінскую пошту»: можа, іх людзі маглі б зрабіць укладку. Абяцаюць пытанне «правентыліраваць».

21.01. Аўторак. З экспедыцыі паведамляюць: паехалі за газетай, але яе на складзе не было(?). На фабрыцы высвятляецца: газету не перанеслі ад машыны, на якой рабілася ўкладка, на першы паверх, дзе склад. Маўляў, цяжкая ручная праца. Кіраўніцтва цэха тлумачыць, што ім нязручна два разы пераналаджваць машыну, каб зрабіць укладку сямі тысяч паасобнікаў. Вось каб 70 тысяч — іншая справа. Што ж, мы таксама не супраць 70 тысяч. Але ўсе вялікія справы пачынаюцца з малога. Ці варта ігнараваць газеты з малымі накладамі?

З Галоўпаштамта паведамляюць — рабіць укладку іх людзі не будуць. Ды яшчэ і папярэджваюць — трэба, каб газету дастаўлялі ім з фабрыкі абавязкова ў складзеным выглядзе. Падпісваем у друк трэці нумар газеты.

22.01. Серада. Два супрацоўнікі рэдакцыі працуюць у друкарні, уручную ўкладваючы газеты. Высвятляецца, што адной часткі газеты недадрукавана 500 паасобнікаў.

23.01. Чацвер. Машына з цэха экспедыраваная вечарам, забірае на фабрыцы адначасова два нумары нашай газеты. Але ў накладной чамусьці не ўказваецца колькасць паасобнікаў... Сацыялістычны спосаб жыцця з намі і перамагае!

24.01. Пятніца. У другой палове дня газета развозіцца па паштовых аддзяленнях і кіёсках. (У экспедытараў свой графік работы, і падладжвацца пад газету яны не збіраюцца). Толькі ў суботу яе два нумары адначасова трапяць да падпісчыкаў.

Вось так пакуль друкуецца і ідзе да чытача газета, якая па праву лічыцца сімвалам нацыянальнага адраджэння беларусаў. І якая знаходзіцца на дзяржаўнай датацыі. Той, хто чытае камерцыйныя, «дзелавыя» газеты, ведае, што ў іх такіх спазненняў па тэхнічных прычынах не бывае. Хоць нямала іх выдаецца на той жа фабрыцы «Чырвоная Зорка». На расійскай мове, між іншым.

Сухая хроніка выхаду аднаго нумара не раскрывае многія квяцістыя выказванні і меркаванні начальства друкарні ў адносінах да газеты, беларускага слова. Толькі дзеля прыкладу прывядзём адну любімую фразу, з якой пачынаецца размова з многімі адказнымі людзьмі: «Як нам надакучыла гэтае «Наша слова»! А яшчэ любяць прыпомніць анекдот пра Калініна і выданне беларуска-рускага слоўніка. Маўляў, амаль усе словы ў беларускай мове ўзяты з рускай ці ўкраінскай, то навошта яна наогул. Спрачацца і даказваць нешта ў такіх выпадках проста немагчыма. І не таму, што «дзелавыя» людзі вельмі занятыя. Усе гэтыя дробныя ўколы выцякаюць са старой русіфікатарскай пазіцыі: няма беларускай мовы, а ёсць толькі сапсаваная руская. Пры такой пазіцыі вельмі цяжка разлічваць на ўзаемаразуменне пры выданні беларускай газеты.

Як бачым, русіфікацыя, што вялася вякамі, сказваецца не толькі на накладзе беларускамоўнага выдання. Яшчэ больш адчувальны яе ўціск на дзелавых адносінах. І гэта варта было б улічыць новаму Міністэрству інфармацыі рэспублікі. А таксама дэпутатам беларускага парламента, якія будуць яшчэ раз абмяркоўваць пытанне аб падтрымцы беларускамоўных выданняў.

**Анатоль СІЛЯНКОЎ,**
**адказны сакратар газеты «Наша слова».**

## *АДРАДЖЭННЕ: ПРЭМ'ЕРЫ, ВЕЧАРЫНЫ, ІМПРЭЗЫ*

***Дзяржаўны канцэртны аркестр РБ і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны прадстаўляе ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі 15 лютага а 19 гадзіне прэм'еру поп-оперы «Максім» Ігара Паліводы паводле твораў Максіма Багдановіча (лібрэта Лявона Пранчака), а таксама канцэрт сучаснай беларускай песні «Пад зоркай Пагоні». Выступяць спевакі Уладзімір Кудрын, Іна Афанасьева, Мікалай Скорыкаў, Юлія Скараход, Вадзім Касэнка, Алена Саўленайтэ, Валерый Скаражонак. Мастацкі кіраўнік — Міхаіл Фінберг. Вядучая — Народная артыстка Рэспублікі Беларусь Зінаіда Бандарэнка.***

 

# ПЁТР КРАЎЧАНКА: нацыянальнае разуменне прыйдзе праз абуджэнне нацыянальнай інтуіцыі

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).*

беларускай мовы для супрацоўнікаў, дзе выкладанне вядзецца высокапрафесійнымі выкладчыкамі. Запісалася шмат людзей з розных аддзелаў. Але жорстка я нікога не прымушаў. Проста паставіў пытанне такім чынам, што адну нараду ў панядзелак я праводжу на рускай мове, другую — на беларускай. Міністэрства камплектавалася не адзін год: прыехалі спецыялісты пасля маскоўскіх ВНУ, працуюць не толькі беларусы, і мне не хацелася б, каб мова нас адразу падзяліла: гэты ведае, а гэты — не. Таму ўсё рабілася спакойна, прыязна і карэктна. Цяпер ужо многія дакументы рыхтуюцца на беларускай мове, ідзе перапіска з іншымі дзяржавамі, дзе арыгінал робіцца на беларускай мове і пераклад — на англійскай. Як правіла, усе нашыя афіцыйныя дакументы рыхтуюцца на беларускай мове. Так што ў нашым міністэрстве родная мова пашырае сферу свайго гучання і ў бліжэйшыя год-два ўвогуле гэта будзе беларусізаванае міністэрства.

**— Неўзабаве, відаць, Рэспубліка Беларусь будзе мець свае прадстаўніцтвы ў розных краінах: консульствы, пасольствы. Што, на Вашу думку, можа надаць нацыянальную адметнасць гэтым установам?**

— Галоўная нацыянальная адметнасць будзе выяўляцца ў асобе людзей. Зразумела, што ў нашых пасольствах павінны працаваць беларусы. Усе апошнія кадравыя прызначэнні я ацэньваю з пункту гледжання адносін чалавека да нацыянальнай культуры, нацыянальнай гісторыі, нацыянальнай спадчыны і мовы. Пэўную ролю павінны адыграць аксесуары і наша нацыянальная сімволіка ў афармленні пасольства, у яго інтэр'еры. У адзенні нашых прадстаўнікоў таксама не трэба цурацца нашых нацыянальных традыцый.

**— Нечаканасцю было для нас, што на прэс-канферэнцыі, дзе прысутнічаў дзяржаўны сакратар ЗША Дж. Бэйкер, Вы гаварылі па-беларуску і пераклад рабіўся адразу з беларускай на англійскую мову. Ці будзе гэта хутка нормай у нашай суверэннай Беларусі?**

— Гэта ўжо ёсць норма. Вось менавіта сёння некалькі гадзін назад мы сустракаліся з нунцыем папы Яна Паўла II. Павінен сказаць, што на перамовах пераклады рабіліся не толькі з беларускай на італьянскую, але і з італьянскай на беларускую мову. І папскі нунцый не мог гэтага не заўважыць. Калі мы просім, каб нашы святары да паствы, да вернікаў звярталіся на нацыянальнай мове, то, зразумела, папскаму нунцыю мы павінны паказваць прыклад. І гэта прайшло вельмі добра і мела свой рэзананс. Практычна з першага дня працы на пасадзе міністра ўсе перамовы я вяду на беларускай мове. Перамовы са Скубішэўскім, міністрам замежных спраў Польшчы, у кастрычніку 1990 г.— адзін з такіх прыкладаў.

**— Чаму Вы сталі гаварыць па-беларуску? Дзе напачатку вучыліся?**

— Гэта выхаванне. Я прыйшоў да беларускай мовы, дзякуючы бабулі, маці. Маці мая — настаўніца, скончыла настаўніцкую семінарыю, але здарылася так, што яна вельмі мала працавала настаўніцай. Бабуля, вёска — гэта мае карані. Вёска — менавіта тое асяроддзе, дзе гучала беларуская мова. У першы клас я пайшоў у вёсцы Свіры, у другі — у Крывічах. У Крывічах быў вельмі выдатны настаўнік: ён практычна абудзіў цікавасць да беларускай мовы. Усё пачалося з паэмы «Курган». Ён так выдатна дэкламаваў — з такім нейкім унутраным пафасам, з унутраным хваляваннем, што гэта перадавалася нам, яго вучням. Стандарт адукацыі ў беларускай школе 30 гадоў назад быў вельмі высокі.

**— Вы былы работнік партапарату. Ці лёгка было пачуваць сябе беларусам у тых умовах?**

— Усё было. Было поўнае неразуменне ў тых вышэйшых інстанцыях. Я прыйшоў на пасаду сакратара Менскага гаркама ў студзені 1985 г. Мне было 35 гадоў, хацелася шмат што памяняць. Да гэтага не займаў кіруючых пасад, таму ў нейкім сэнсе я таксама дзіця перабудовы, калі так можна сказаць. І з першага месяца працы трэба было рыхтаваць свята, якое потым стала вядома як свята горада «Мінск-86». Праводзілася яно ў канцы мая 1986 г. Свята рыхтавалася практычна без фінансавай дапамогі з боку, на энтузіязме працавала чалавек 400. У гэты час я пазнаёміўся з многімі журналістамі, якія, дарэчы, у нейкім сэнсе перш за ўсё мяне падтрымалі. Потым пісьменнікі. Я праводзіў некалькі нарад у гаркаме з удзелам Н. Гілевіча, А. Вярцінскага, В. Зуёнка, Б. Сачанкі і іншых. Была прапанавана новая нацыянальная мадэль свята пад назвай «Талака». Але потым былі такія абставіны, што прымусілі не мяне, а маё начальства змяніць назву гэтага свята. Я да гэтай пары лічу, што адбылася вельмі прыкрая з'ява,— у тым сэнсе, што першае свята мы назвалі вельмі нейтральна.

**— Значыць, у нейкім сэнсе першы блін усё-такі комам?**

— Не зусім. У часе таго свята шмат што атрымалася няблага. Ды ўзяць хоць вось гэта: упершыню гучала беларуская мова на стадыёне «Дынама» і не адзін і не два, а дзесяткі ансамбляў песні і танца выконвалі «Лявоніху» на вуліцах Менска. Мне вельмі прыемна ўспамінаць той час. Я тады канчаткова прыйшоў да разумення: ёсць такая патрэба — працаваць на нацыянальную ідэю, будзіць нацыянальную свядомасць, будзіць праз культуру, праз мастацтва, ісці да людзей праз эмоцыі, праз сэрца. Таму што розум не заўсёды дазваляе чалавеку асэнсаваць, што і як. Павінна праявіцца нацыянальная інтуіцыя, а тады і прыйдзе нацыянальнае разуменне.

**— Вы падтрымалі і ідэю беларусізацыі школы?**

— Праз год пачалася праца па адраджэнні беларускіх школ. Калі я прыйшоў у гаркам, практычна толькі ў адной, калі не памыляюся, школе № 108 паўтарамільённага Менска было некалькі беларускіх класаў. Калі пакідаў сваю сакратарскую пасаду, прыкладна ў 40 школах ужо існавалі беларускамоўныя класы. Гэта ўсё, што ўдалося зрабіць за 4 гады. Я пабываў у шматлікіх школах на бацькоўскіх сходах, агітаваў за беларускамоўныя класы разам з нашымі вядомымі пісьменнікамі. Калі ўзнікла пытанне аб стварэнні Таварыства беларускай мовы, я на працягу трох месяцаў узначальваў аргкамітэт. У верасні 1989 года, нягледзячы на рэзкія палітычныя супярэчнасці, якія існавалі паміж рознымі людзьмі, мы ўсё ж правялі ў Доме асветы Менска ўстаноўчую канферэнцыю і стварылі ТБМ.

**— Тады, здаецца, упершыню прагучала ідэя стварыць закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы.**

— У тыя часы мы разам з іншымі прадстаўнікамі нацыянальнай інтэлігенцыі пачыналі працаваць над законам аб мовах. Сядзелі ў Савеце Міністраў па 10–12 гадзін на працягу трох месяцаў. Працавалі тады, калі амаль ніхто не верыў, што гэтая справа пойдзе. З аднаго боку, былі прапановы супраць дзяржаўнага статуса беларускай мовы, з другога,— гучалі заклікі прымусіць усіх сілай яе вывучаць. Я не мог пагадзіцца ні з тым, ні з другім поглядам на гэтую праблему. Урэшце закон быў распрацаваны і прыняты ў студзені 1990 г. Яшчэ са старым парламентам. Я ганаруся, што з'яўляюся адным з аўтараў гэтага закона. Трэба, дарэчы, успомніць і тое, што Менскі гаркам партыі пайшоў супраць думкі ЦК КПБ і на бюро гаркама было прынята рашэнне звярнуцца ў Вярхоўны Савет СССР з прапановай аб наданні беларускай мове статуса дзяржаўнай. Гэтае рашэнне было прынята аднагалосна, і літаральна праз некалькі дзён мы напісалі ў Вярхоўны Савет СССР. А праз месяц пасля бюро гаркама і пачала працаваць камісія па распрацоўцы гэтага закона.

**— Вы — адзін з заснавальнікаў Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Як Вы лічыце, ці апраўдала сябе гэтая грамадская арганізацыя?**

— Што да такога хуткага адказу, апраўдала ці не, адразу магу сказаць: апраўдала. Тое, што створана ТБМ — выдатна. Можна гаварыць пра пасіўнасць некаторых арганізацый, пра тое, што не ўсё ўдалося вырашыць, але ўсё-такі ТБМ як арганізацыя існуе. Яна абудзіла ў многіх нацыянальную свядомасць. Існуе газета «Наша слова», існуе такая грамадская суполка, якая дазваляе людзям сустрэцца, перакінуцца беларускім словам, падтрымаць адзін аднаго. Думаю, мы стварылі арганізацыю на дзесяткі гадоў. Калі я выступаў на рэспубліканскім з'ездзе, то я ўспомніў такі аналаг, які характэрны не толькі для нас, але і для славянскіх краін, што наша ТБМ — гэта «маціца» Беларусі, што ў той час, калі народ абуджаецца ад летаргіі, ад амаль смяротнага сну, заўсёды павінна існаваць і гэтая арганізацыя, і з цягам часу яна будзе набываць усё большы аўтарытэт.

Родная мова павінна абудзіцца ў чалавечай душы і шырока пайсці ў свет. Жадаю поспехаў «Нашаму слову».

Гутарыла **Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**



**Каралеўства Швецыя стала першай краінай, якая ўстанавіла з Рэспублікай Беларусь дыпламатычныя адносіны. Міністр замежных спраў Швецыі Маргарэта аф Углас і міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка ў момант падпісання пагаднення.**
**Фота Валерыя АЛЯШКЕВІЧА (БЕЛТА).**

**Нядаўна ў менскай школе № 53 створана суполка ТБМ імя Ф. Скарыны. Ініцыятарам стварэння суполкі стаў выкладчык пачатковай ваеннай падрыхтоўкі маёр запасу Алесь Станкевіч. Пра сваю ініцыятыву ён гаворыць:**

**— Беларуская мова сёння патрэбна ўсім. Уявіце сабе сітуацыю: прыходзіць на службу ў нацыянальнае войска прызыўнік, а па-беларуску ніводнага слова не ведае. Не кажучы ўжо пра спецыяльную вайсковую тэрміналогію... Таму я і клапачуся пра пашырэнне ўжытку беларускай мовы сярод сваіх вучняў.**

* * *

14 і 15 студзеня ў Даўгаўпілсе праходзіла сустрэча **рабочых груп па ўстанаўленню мяжы паміж Латвійскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь. Бакі прыйшлі да згоды: лінія мяжы будзе супадаць з прынятым на гэты момант адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленнем. Удакладненні патрабуюцца толькі ў тых месцах, дзе міждзяржаўныя рубяжы заараны.**

**Як сказаў першы сакратар Міністэрства замежных спраў Беларусі Мікалай Касіараў, «у нас існуюць добрыя перспектывы для таго, каб устанаўленне мяжы паміж Беларуссю і Латвіяй стала ўзорам для іншых дзяржаў».**

* * *

8 студзеня г. г. на **пасяджэнні рады БНФ Савецкага раёна Менска створаны раённы штаб беларускай дружыны. Гэта першы крок да стварэння, як мяркуецца, рэспубліканскай арганізацыі.**

**«Беларуская дружына — добраахвотная неваенізаваная арганізацыя грамадзян Рэспублікі Беларусь, якая мае на мэце ахову грамадскага парадку, недапушчэнне гвалтоўных дзеянняў супраць грамадзян ды канстытуцыйна дзейсных органаў, а таксама недапушчэнне беспарадкаў пры правядзенні масавых мерапрыемстваў»,— так гучыць прэамбула Статута БД.**

**Тэлефон кіраўніка раённага аддзялення БД сп. Сяргея Андросава: 61-27-41.**



 

